УДК 929.52
ББК 63.3(4БЕИ)
Ч90

*Зборнік аздоблены творамі слонімскага мастака*
*Васіля Грыневіча*

**Чыгрын, С. М.**
Ч90 Едуць гетманы ў Слонім. Вершы / С. М. Чыгрын – Гродна : ЮрСаПрынт, 2020. – 48 с.

ISBN 978-985-7134-87-8

Кніжку склалі вершы Сяргея Чыгрына, прысвечаныя роднай Слонімшчыне і памяці яе знакамітых людзей.

**УДК 929.52**
**ББК 63.3(4БЕИ)**

**ISBN 978-985-7134-87-8**

# Паланэз

Роднасць наша
Самая блізкая –
Слонім
І паланэз Агінскага.
Зоры на далонях
І над калыскаю,
Сон наш –
Слонім
І паланэз Агінскага.
Хвалямі Шчары
І кожнаю пырскаю
Мы адчуваем
Самае блізкае –
Слонім
І паланэз Агінскага.

# Леў Сапега ў Слоніме

Паклаў Статут перад вачыма
І гучным голасам сказаў:
– Тут пачынаецца Радзіма
І каб Радзіму ты кахаў.
Жанчын кахаць можаш бясконца,
Але Айчыну – назаўжды
Павінен ты любіць як сонца,
Як ў спёку кропельку вады...
Давай, сланімец, за Айчыну
Мы вып’ем моцнага віна…
А потым вып’ем за жанчыну –
Ачысцім келіхі да дна…
Статут свяціў нам бы ікона,
І падбадзёрваў піць віно…
А за сталом сам Леў натхнёна
Сабраў стагоддзі у адно.
Здавалася піць немагчыма –
Віно гарчэла як палын…
Пілі раз дзесяць за Айчыну
І дваццаць раз мы за жанчын!..

# У гасцях у Льва Сапегі

– Ці можна, гетман, да вас ў госці –
Я – слонімец, тутэйшы я?..
Маўкліва глянуў ягамосьці,
Здалося, дасць мне кухталя.
Пасля Статут паклаў у шафу,
Паварушыў вуглі ў каміне.
– Любі заўжды сваю дзяржаву,
І радуйся жыццю ў Сланіме…
–Дык я ж люблю сваю Радзіму,
Як і належыць нам любіць…
– Мы разам, хлопча, маем сілу,
А паасобку нам не жыць…
Наліў у келіхі Сапега
Віна чырвонага свайго…
І келіхі звінелі рэхам,
І мы пілі, пілі яго.
Пілі за Слонім і за Шчару,
За Бацькаўшчыну мы пілі…
Распавядаў Сапега мары,
Каб ўсе ліцвіны лепш жылі.
І каб квітнеў прыгожы Слонім,
Квітнеў і сёння, і заўжды…
А потым нас каталі коні –
Вязлі ў стагоддзі і гады.

# На пікнік у Слонім

Люты месяц задумёны
І марозаў не відаць.
Старадаўні, родны Слонім…
Хопіць, братка, сумаваць.
Ты не плач адлігай бруднай
У жыцці нашым штодзённым.
Мне з прыродай вельмі сумна,
Калі ты сумуеш, Слонім.
Адчуваю я палонным
Без Агінскага з Сапегам,
Запрашаю іх у Слонім,
На зімовую пацеху.
Каб не страцілася штосьці,
І каб сум маркотны знік…
Едуць гетманы у госці –
Будзе ў Слоніме пікнік.



# За Слонім і Айчыну

Я сеў з Агінскім выпіваць
Ў кафе нямецкім і шыкоўным,
Праз вокны Шчара нам відаць,
І Шчары бачны нашы вокны.
Наш першы тост за Слонім быў,
Што гэты горад ёсць на свеце,
Бо тут Сапега слаўны жыў,—
Вазілі гетмана ў карэце.
Другі наш тост – за люд сланімскі,
За наш магутны родны люд.
Прапанаваў той тост Агінскі
Ў палацы слонімскім вось тут.
І мы пілі віно да дна,
І не сп’янелі б мы магчыма…
Бо не хапала нам віна,
Калі пілі мы за Айчыну!

# Сланімчанка

Далёкая і блізкая
Адна у белым плацці
Імчыць ў палац Агінскага
На баль вялікі шчасця.
Прыгожая і зграбная,
Шчаслівая дзяўчына,
Ты скуль скажы такая
З Жыровіч, з Альбярціна?
Страчаюць прыгажуню
І б’юць паклоны нізкія –
Зусім-зусім чужую
У Міхала Агінскага.
І гетман сустракае,
Аркестр іграе вальсы,
Віно цячэ ракою
І смажацца каўбасы…
І баль сядзібу музаў
Кружыў да самай раніцы,
Пілі там ўсе ад пуза,
Глядзелі на абранніцу.
Прыгожая такая –
Адна на горад Слонім,
Агінскага трымала
Нібыта у палоне.
З надзеяю і верай
Імпэт былі, натхненне…
Ад стомы слаўны гетман
Ёй цалаваў калені.

# Першы снег

У цябе ёсць мара – першы снег,
Першы снег – збылася твая мара.
Хай нясе, як памяць ў белы свет,
Снежную маўклівасць наша Шчара.
Першы снег – як першы пацалунак,
Што растаў слязінкамі з вачэй.
Першы снег – твой лепшы падарунак,
Пасля шумных тостаў і начэй.
Я даўно пра гэта і не мару:
Першыя снягі мае прайшлі.
Лёгка топчам першы снег ля Шчары,
Дзе вядомыя Агінскія жылі.
І здалося: выйшаў нам насустрач
Слаўны гетман – слонімскі староста.
Патаптаць сняжок, відаць, не супраць,
Ці зіме парадавацца проста...
Першы снег – і памяць, і надзея,
Дзеля іх і хочацца нам жыць.
Ты цяпер чароўна разумееш,
Чаму доўга снег той не ляжыць.
Яго стопчуць людзі і машыны,
Ды праз год ён вернецца ізноў.
Першы снег – пяшчотны і адзіны,
Будзе клікаць на Куццю сяброў.
І сябры прыйдуць... ды знікне снег,
Адплыве у лета твая мара...
Хай нясе, як памяць ў белы свет,
Снежную маўклівасць наша Шчара.

# Касцёл святога Андрэя ў Слоніме

Да крыніцы святой прыпаду,
Бо душа моцна смагай хварэе.
Па слядах Льва Сапегі пайду
Да касцёла святога Андрэя.

І ступлю на цвінтар распісны,
Што, як сонца, з гадамі старэе.
Знікне чорны куфэрак маны
Ля касцёла святога Андрэя.

Знікнуць боль і адчай, і трывога,
І душа, як вясна, развіднее...
Папрашу я свабоды у Бога
У касцёле святога Андрэя.



# Гетман

Тут палац ваш агнямі бліскаў,
І вы тут шчасліва жылі.
Вітаем вас, гетман Агінскі,
На слонімскай нашай зямлі.
На беразе плыткай Шчары
Згадаем мінулы час,
Дзе вальсам кружылі мары,
Дзе ўсе паважалі вас.
Той час, калі вы кахалі,
Мінуў у стагоддзях даўно…
Дзе сэрцы цудаў чакалі,
Дзе госці пілі віно…
Вітаем вас, гетман Агінскі,
Для вас паланэзы гучаць.
Той час і далёкі, і блізкі
Мы будзем яго шанаваць.
Хай кружыць у вальсах Слонім
Тых слаўных вякоў напамінак,
Каб мы не забылі ніколі
Прыгожых вачэй ліцвінак.

# Успенскі сабор у Жыровічах

Я слаўлю тваю старажытнасць
На слаўнай крывіцкай зямлі,
Дзе ў сонцы купаецца жыта
І ў вёсках рыпяць жураўлі.
Дзе мова гучыць беларуская,
Ад кветак святлеюць бары,
Дзе кожная сцежка вузкая
Расою блішчыць на зары.
Дзе звычай жыве спрадвечны –
Вяселлі спраўляць гучней...
Дзе ты так падобны на вечнасць
Сярод землякоў і гасцей.



# Сіняя птушка

Сіняя птушка села на белы балкон,
Сіняя птушка вартуе мой слонімскі сон:
Сніцца Агінскі, тэатр і вакол жырандолі
Шлях асвятляюць да самае лепшае долі.
Бачыцца зала і людзі, і сцэна, і коні…
Выступіць едуць акцёры з Еўропы у Слонім,
Гетман Агінскі вітае вяльможаў заможных,
Каб паглядзелі на Слонім з тэатрам раскошным.
Каб паглядзелі, што мы тут ствараем мастацтва,
Каб у гісторыі нашай надоўга з Агінскім застацца…
Сіняя птушка раптам пакінула белы балкон
І… паляцела, развееўшы светлы мой сон,
Вочы адкрыў і гучыць паланэз развітання…
Гетман Агінскі едзе ў Парыж на спатканне…



# Баль генерала Канопкі

*Слонімскі генерал Ян Канопка (1777-1814)*
*у 1812 годзе ваяваў на баку Банапарта Напалеона.*
*Аднойчы ён наладзіў у Слоніме баль…*

Ян Канопка наладжвае баль
У палацы Пуслоўскіх да ранку.
Твар схавала пад белы вуаль –
Не пазнаць сланімчаку.
Кружыць ў вальсе увесь Альбярцін
Генерала Канопку,
Ён тутэйшы, ён родны наш сын
За французаў ваюе лоўка.
Сланімчанкі-ліцвінкі глядзяць
І вачэй з генерала не зводзяць:
Ці умее Канопка кахаць?
Ці заўсёды ў баях і паходзе?..
Не спыняецца шумны баль,
Паланэзы гучаць да ранку…
Твар схавала пад белы вуаль –
Ён пазнаў сланімчанку.
Ён пазнаў, прытуліў да грудзей,
І глядзелі усе уланы,
Як ліцвінка сярод гасцей
Пацалункам лячыла раны.

# Міхал Валовіч

*Памяці кіраўніка*
*паўстання 1830-1831 гг. на Беларусі*

Мураўёвы цябе не зловяць –
Ты ў нашых сэрцах жывеш,
Вялікі Міхал Валовіч,
Як мова, як песня, як верш.
І ніхто нас ніколі не зломіць,
І мы не скарымся ім.
Ты з намі, Міхал Валовіч,
Як Айчына, як сцяг, як гімн!

# Зіма

Проста хочацца сесці на сані
І паехаць у белае поле.
Дзе марознае сіняе ранне
Мяне шчыра вітала б на волі.
І няслі б мяне белыя коні –
Ажно сані да неба ляцелі…
З вышыні у заснежаны Слонім,
Да пуховай ў палацы пасцелі.
І хапіла б мне гэтай уцехі,
І зіму мы бясконца кахалі б…
І камін растапілі б Сапегі,
І чырвоным віном частавалі б…



# Гальяш Леўчык

Дамоў
Зычлівы Слонім клікаў,
Дзе сэрцу ўсё так блізка,
Дзе, як струна са скрыпкі, –
Канал Агінскага.

# Памяці паэта Сяргея Дарожнага

*Слонімскі паэт Сяргей Дарожны (1909-1943)*
*быў рэпрэсіраваны і загінуў у сталінскіх лагерах*

Сяргей Дарожны.
Жыццё – дарога
У васільковым рассыпу.
А на душы – трывога,
І васількі
У росах тут.
Бывай, мой Слонім!
Сто дарог
Сюды прыводзяць,
І сто трывог,
І сто трывог
За мною ходзяць.
Бывай, мой Слонім!
Буду жыць
Тваёй надзеяй,
Хоць я старэю,
А душа
Зноў маладзее.
Бывай, мой Слонім,
Я з дарог
Яшчэ вярнуся,
І што збярог,
Я давязу
Да Беларусі.
Я давязу
Да Беларусі
Сны землякоў,
Бо сняцца гусі
Над Белай Руссю,
Спеў жаўрукоў.

Бо сніцца Шчара
І канал
Канал Агінскага.
Дзяўчына-мара
Там жыве
І людзі блізкія...
Бывай, мой Слонім,
Мой самы лепшы!..
Я на спатканне
Да цябе
Пашлю з дарогі
Вершы.

# Маналог паэта Анатоля Іверса

Шмат пройдзена дарог,
Каб жыць ў бацькоўскім краі.
Пішу радкі трывог –
Былое ўспамінаю.
І песні на загонах,
Што нараджалі мы.
Гучаць у сэрцы сёння,
Як першыя грамы.
Ад Слоніма да Вільні
Па праўду я хадзіў,
А дома спелі вішні,
Што з хлопцамі садзіў.
Гады, як тыя вішні,
Апалі на мурог.
Не ўсе жывымі выйшлі
З тых пройдзеных дарог.
Вяслуе даты Шчара,
Пяе птушыны грай...
Збылася наша мара –
Расцвіў бацькоўскі край!

# Тэатр у Слоніме

*Памяці заснавальніка*
*Слонімскага беларускага драматычнага тэатра*
*рэжысёра Мікалая Варвашэвіча*

Слаўны шлях наш Агінскі пачаў.
І калі мы заснем у палоне –
Стане пуста ў душы,
Стане цёмна ў вачах,
І не ўспомняцца сцэна і Слонім.
І па Опернай вуліцы мы не прайдзем,
І тэатр не адчыніць нам дзверы.
Цёмным будзе наш цень,
Сумным будзе наш дзень,
І ніхто не ўбачыць прэм’еры.
Ды не слухайце тых, хто ад злосці крычыць,
Хто закідвае ношы на плечы нам...
Жыў, жыве, будзе жыць,
А мы будзем любіць
Беларускі тэатр Варвашэвіча.

# Землякі

*Памяці землякоў-слонімцаў Гальяша Леўчыка,*
*Язэпа Стаброўскага, Івана Міско (Анатоля Іверса)*

Да каго нам заехаць і каго павітаць,
Распытацца пра той векапомны курган.
Як жа без вас нам самотна тут жыць,
Дзядзька Гальяш наш, Язэп і Іван.
Хто ж лепш за вас ведаў родны наш край,
Хто ж лепш за вас тут кнігі пісаў?..
Нешта без вас тут на сэрцы адчай –
Плача душа, наплывае сляза.
Край наш прыгожы, як быў, так і ёсць,
Песні пяюцца і сеецца хлеб.
Толькі здаецца – народ дома – госць,
Дзядзька Гальяш наш, Іван і Язэп.
Час пралятае, ды нам не лягчэй,
Слаўны ён час, ды чамусьці не наш...
Так не хапае нам мудрасці шчэ
Вашай Іван наш, Язэп і Гальяш.





Давай мы вып’ем, Жэнька Іваноў,
З надзеяй, што адродзіцца Айчына.
І памянем славутых мастакоў
Са Слоніма – забыць іх немагчыма.
Мы так даўно з табою не пілі,
Не ўздымалі тостаў за мастацтва.
Заможна продкі нашыя жылі,
Калі было Вялікае тут Княства.
Калі палацы будаваў народ,
Калі распісваў храмы і званіцы...
Несумяшчальныя мастацтва і прыгнёт,
Як слёзы і вада з Белай крыніцы...
Дык налівай нам, Жэнька Іваноў!

# Родныя вёскі

Буслы ў беларускія вёскі
Прыносяць ад шчасця ключы,
І пеўняў чуваць адгалоскі –
Байкі, Ламашы, Едначы.

Жывуць тут народныя песні,
Купаецца ў росах трава,
Францішка Скарыны равеснікі –
Баяры, Папкі і Літва.

На славу жыццю маладому
Добра чытаюцца вершы,
І кліча дарога дадому –
Залессе, Загор'е, Заверша.

Як добра – на шчасце вякамі
Тут хаты будуюць сябры,
І вяжуць сватоў ручнікамі
Грынкі, Касцяні, Чамяры...

Шуміць пры дарозе бярозка –
Хачу я туды ўцячы,
Дзе бусел і мне па-над вёскай
Напэўна падкінуў ключы.

# Яшчэ

Яшчэ зіму не хутка мы прагонім,
І першыя пачуем тут грамы.
А снег і дождж ляцяць на горад Слонім,
Заглядваюць у вокны і ў дамы.
Яшчэ вясну не хутка мы дагонім,
Яшчэ вясна не пратаптала след…
А снег і дождж ляцяць на горад Слонім,
І просяцца пагрэцца у пад’езд.

***

Зіма згубіла снег даўно,
І знікла з Альбярціна,
Зіма з вясною п’е віно,
Зіма-дзяўчына.

Зіма паводкай паплыла
Па Шчары і па Ісе,
Зіма у Слоніме была, –
Мароз маліўся!

І падаў снег перад вясной,
І дым – у коміне…
Зіме-гаротніцы адной
Жыць сумна ў Слоніме.



# Вяснянкі

Вось і вясна выглядае
З чыстага берага Шчары,
Ну, прыплывай, дарагая,--
Высвеці нашы мары.
Высвеці нашу долю,
Лёс нас зрабі святлейшым.
Просіцца Шчара на волю –
Хоча быць Шчара першай.
Хвалі бягуць – не дагоніш,
Мусіць, вясну пачулі…
Будуць вяснянкі у Слоніме
Слонімцам шыць кашулі.



## Вецер у Слоніме

Вецер заблудзіўся ў Лабазоўцы,
І прылёг ля возера ў кусты.
А яго будзіла промнем сонца,
Нібы вецер – дзядзька халасты.
І злаваўся вецер, і смяяўся,
І жадаў на Брэсцкую ляцець.
І чужым машынам усміхаўся,
І стаміўся на людзей глядзець.
І прысеў на лаўку, і на сонцы
Назаўсёды трапіў у палон…
Бо хацеў пад'ехаць на "пяцёрцы",
Ды "пяцёркі" сёння не было.

# Жыровіцкая манашка

Ты пакліч мяне, манашка,
На пустэльным цвінтары.
Я прыйду, як стане цяжка,
За святарныя муры.
Ты мяне схавай у келлі
І налі віна “Кагор”,
Каб душы дзве затрымцелі
І – per aspera – да зор.
Свечкі полымя патухне,
Мы з табою памаўчым.
І нас храм дваіх прытуліць,
Як паломнікаў ўначы.
А пад раніцу званіца
Нас разбудзіць у цішы...
Будуць доўга храму сніцца
Дзве шчаслівыя душы.



# Слонімскі вакзал

Раскажы нам, вакзал, раскажы,
Каго бачыў тут, сустракаў,
Хто у Слонім вяртаўся жыць,
Хто каханую тут спаткаў.
Раскажы нам, вакзал, пра вайну,
Пра рэпрэсіі і расстрэлы.
Ты ж яе перажыў не адну,
Ты ж адчуў на сябе іх стрэлы.
Не маўчы наш вакзал, не маўчы,
Твае сцены пабачылі многа—
Цягнікоў пасажырскіх ўначы,
І надзею на шчасце у Бога…
Ды маўчыць наш вакзал, як заўжды
Пазірае вялікімі вокнамі.
І не хоча прыгадваць гады,
Што самотай з бядою напоўнены.
Ён прыгадвае толькі спатканні,
І шчаслівыя слёзы сустрэч.
І світанні, дыханні, каханні,
Ад якіх нікуды не ўцячэш.

***

Чаму няма у Слоніме трамваеў?
Тралейбусаў у Слоніме няма?..
Што возяць тых, каго мы не кахаем,
І тых, каго кахаем мы дарма.
І з рэек не сыходзяць тут трамваі,
Тралейбусаў не рвуцца правады…
А мы чужых, паверце, не кахаем,
Сваіх кахаць нам хопіць на гады.
Як за парэнчу нас жыццё трымае,
Каб з'ехалі з табой мы не туды.
Так хочацца у Слоніме трамваеў,
Што маюць  мільянеры-гарады.
А можа мы не правільна кахаем,
І ў душах нашых – чэрствасці зіма?..
Таму няма у Слоніме трамваеў,
Тралейбусаў у Слоніме няма.



# Восень

*Мастаку Васілю Грыневічу*

Такая восень на двары,
Такая восень!
Цвярозы я, мае сябры –
Нас хлопцаў восем!
І сонца грэе спакваля,
І добра сонцу.
З сябрамі сёння буду я –
Нам быць бясконца.
Нам жыць і жыць, пакуль жыве
Наш горад Слонім,
Далёка заўтра, а цяпер
Мы у палоне.
Мы ўсе палонныя сябры,
Мы волі просім…
Такая восень на двары,
Такая восень!

# Слонімскі кірмаш

А на слонімскім на кірмашы
Прадаюць вяскоўцы кашы,
Граблі шчэ прадаюць і косы,
Каб збівалі халодныя росы.
І сярпы прадаюць, і сякеры,
Самаробныя клямкі на дзверы,
Прадаюць бы ў мінулых стагоддзях,
І да іх мужыкі падыходзяць,
І жанчыны сярпы трымаюць,
Бы жніва залатога чакаюць…
І святлее ад гандлю кірмаш –
Бо святлейшага ў свеце нямаш.



# Шчара

Табе адной я веру, мая Шчара,
Як верацьБогу, сонцу і вадзе…
І хай плыве на хвалях мая мара
І не спыняецца ніколі і нідзе.
Давай с табою, Шчара, пагамонім,
Вадой адмыем горыч і бяду…
Калі ёсць ты і горад ціхі Слонім,
То з вамі я нідзе не прападу.



***

Развітваюся
І сустракаюся
З табою,
Шчара –
Зямлячка мая.
Да хваль
Васільковых вяртаюся,
Трапячу
Ветразем я!

***

Бессаромная Шчара
Зарасла
Чаротам і асакою.
Шчырая Шчара
Працякае праз Слонім
І праз
Маё сэрца.

***

Паеду ў вёску
Да дому –
Там
Пачалося жніво,
І возяць салому.
Там
Высока на возе,
Бацька бачыць
За Шчараю –
Восень.



# За Слонім!

Вось і восень прайшла – заўтра выпадзе снег,
І пабеліць у Слоніме і дамы, і бярозы.
І схаваемся мы у мабільнікі ўсе,
Бо на вуліцы будуць і вятры, і марозы.
Вось і восень прайшла – апусцеў горад Слонім,
Цёмным сталі у цэнтры і тэатр, і аптэкі.
Па мабільніках мы пра вясну пагамонім,
Ад прастуды у ложку наглытаемся лекаў.
Хай ідзе гэта восень, хай ляціць ў небыццё,
Памахаем мы ёй на халодным пероне…
Вып’ем чарку з табой за любоў і жыццё,
І нап’емся з табой мы заўсёды за Слонім.



***

Паеду з табою на Брэсцкую –
І забуду цябе я кепскую,
А на вуліцы на Яршова
Падару табе шчырае слова.
А пасля на Тапалёвай
Будзе добра з табою і клёва...
А пад раніцу ў Лабазоўцы
Нас памые промнямі сонца.

# Актава

Спагада. Скруха. Самота.
Сонца. Спакуса. Слізгота.
Сцюжа. Сшытак. Сюрпрыз.
След. Сэнс. Сюррэалізм.
Сягоння. Сябры. Сырадой.
Сурвэтка. Сусвет. Спакой.
Слова. Сузор'е. Сюжэт.
Слонім. Сага. Сакрэт.



# Вяртанне

Слонім. Слонім. Слонім.
Жыць. Жыць. Жыць.
Коні. Коні. Коні.
Піць. Піць. Піць.

Стрэча. Стрэча. Стрэча.
Май. Май. Май.
Вечар. Вечар. Вечар.
Край. Край. Край.

Дома. Дома. Дома.
Печ. Печ. Печ.
Стома. Стома. Стома.
Прэч. Прэч. Прэч.

# Змест

Паланэз 3
Леў Сапега ў Слоніме 4
У гасцях у Льва Сапегі 5
На пікнік у Слонім 7
За Слонім і Айчыну 8
Сланімчанка 9
Першы снег 11
Касцёл святога Андрэя ў Слоніме 13
Гетман 14
Успенскі сабор у Жыровічах 15
Сіняя птушка 16
Баль генерала Канопкі 17
Міхал Валовіч 18
Зіма 19
Гальяш Леўчык 20
Памяці паэта Сяргея Дарожнага 21
Маналог паэта Анатоля Іверса 23
Тэатр у Слоніме 24
Землякі 25
***Давай мы вып’ем, Жэнька Іваноў 26
Родныя вёскі 27
Яшчэ 29
***Зіма згубіла снег даўно 30
Вяснянкі 31
Вецер у Слоніме 32
Жыровіцкая манашка 33
Слонімскі вакзал 34
***Чаму няма у Слоніме трамваеў? 35
Восень 36
Слонімскі кірмаш 38
Шчара 39
Развітваюся 40
Бессаромная Шчара 41
Паеду ў вёску 42
За Слонім! 43
***Паеду з табою на Брэсцкую 44
Актава 45
Вяртанне 46

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**ЧЫГРЫН** Сяргей Мікалаевіч

# Едуць гетманы ў Слонім

## *Вершы*

Адказны за выпуск *Васіль Герасімчык*

Вёрстка *Алеся Рыжага, Ільі Рыжага*

Набор *Сяргея Чыгрына*

Вокладка *Алеся Рыжага*

Падпісана ў друк 20.03.2020. Фармат 60 × 84 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная.
Ум. друк. арк. 13,7. Ул.-выд. арк. 12,4.
Наклад 50 паас. Замова 87-8/2020.

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
Таварыства з абмежаванай адказнасцю “ЮрСаПрынт”.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/388 ад 01.07.2014 г.
Вул. Карла Маркса, 11, 230015, г. Гродна.
+375 152 32 00 01
+375 295 87 84 11
www.usp.by